ГРАМАДА

*АНАТОЛЬ ГУРЫНОВІЧ:*

# «ЛУКАШЭНКА ВЫСТУПІЎ — МАФІЯ СВЯТКУЕ ПЕРАМОГУ»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

## II. КАЛІ-НЕБУДЗЬ ВЫБАРЫ БУДУЦЬ І Ў НАС

**— Што ж, давайце пагаворым пра нашыя варункі. Калі «здэмакратызаваныя» расіяне сорак працэнтаў галасоў аддалі за Жырыноўскага з Зюганавым, то ў нас, у выпадку хуткіх выбараў, сітуацыя можа скласціся яшчэ горшая — дэмакратычны рух раз'яднаны, людзі кепска яго ведаюць і наогул дрэнна арыентуюцца ў ідэях дэмакратыі. Як быць? Якое выйсце прапануе ваша партыя — Грамада?**

— Я б разбіў гэтае пытанне на два. Па-першае, чаму ў Расіі поспех здабылі камуністычна-фашысцкія, як іх называюць у друку, сілы? Для гэтага ёсць аб'ектыўныя ўмовы — народ стаміўся жыць у сітуацыі палітычнай і эканамічнай нестабільнасці, вельмі моцна апошнія гады стукнулі па самых малазабяспечаных слаях насельніцтва. А суб'ектыўная прычына — палітыка расійскіх дэмакратаў, якія здолелі раз'яднацца і пайсці на выбары маленькімі купкамі. Абвінавачваюць цяпер і Ельцына ў яго палітычнай нявызначанасці, і іншых — гэта «разбор палётаў». Але галоўнае, на мой погляд, тое, што ў Расіі спрацаваў недавер да існуючай улады. Пэўная частка паверыла таму, што абяцаў Жырыноўскі, дзякуючы гістарычнаму расійскаму шавінізму — маўляў, мы павінны ўзнавіць імперыю. А частка выступіла, скажам так, не за Жырыноўскага, а супраць тых, хто ля ўлады, хто праводзіць рэформы, якія, па шчырасці, на пэўны час значна пагаршаюць жыццё людзей: каб высока скочыць, трэба нізка прысесці. Бо я ж не магу паверыць у тое, што нехта паслухаўся абяцанняў Жырыноўскага за тры месяцы накарміць людзей. Няўжо ў яго ёсць сакрэты, як каровам цяліцца кожны сезон, а ўраджай бульбы здымаць тры разы за лета і два за зіму?! Але людзі прагаласавалі. І самае крыўднае, за фашызм, за прадвеснік вайны (а я прама кажу, што пагрозы захопу суверэнных дзяржаў — чыстай вады фашызм) прагаласавалі бабулькі, якія пяцьдзесят гадоў таму страцілі сваіх дзетак на вайне. Гэта ўжо вельмі здзіўляе.

Таму варта ўжо сёння думаць пра будучыя выбары на Беларусі. Я на сто працэнтаў упэўнены, што датэрміновых выбараў у хуткім часе не адбудзецца. Заявы Вярхоўнага Савета наконт выбараў Грамада ацаніла як дэкларатыўныя і зробленыя дзеля супакаення людзей. Бо ніхто з Вярхоўнага Савета не хоча ісці на гэтыя выбары, яны добра прыседзеліся да сваіх крэслаў.

Але ж рана ці позна выбары павінны адбыцца.

Можна спрагназаваць, што вельмі моцна, з дапамогай дзяржаўных сродкаў і сродкаў прадпрыемстваў народу будуць навязвацца такія лідэры, як Таразевіч. Кампанія ў Жодзіне паказала, як гэта робіцца, і мне здаецца, што праваахоўным органам можна было б і зацікавіцца, адкуль узяліся грошы на арганізацыю перадвыбарнай агітацыі ў самых розных формах. У нас жа дзейнічае пакуль стары закон, дзе гаворыцца, што кандыдаты ў дэпутаты знаходзяцца ў аднолькавых умовах. Значыць, некаму было вельмі выгадна правесці гэтага дзеяча ў Вярхоўны Савет, хоць ён добра вядомы зусім у іншым плане. Ці не галоўнай была, напрыклад, яго роля ў разгоне «Дзядоў» 30 кастрычніка 1988 года? Я гэтага не забываю, бо сам тады атрымаў добрую долю «Чаромхі».

Паўстае пытанне, ці могуць аб'яднацца дэмакраты супраць камунафашыстаў? У нас жа ёсць і тыя, і тыя. Мяне асабіста вельмі насцярожыла, што недзе пятнаццаць працэнтаў грамадзян Расіі, якія пражываюць на Беларусі, прагаласавалі за Жырыноўскага — краіну, у якой жывуць і хлеб каторай ядуць, яны гатовыя здаць. Гэта вельмі небяспечная з'ява, і недаацэньваць яе не хацелася б.

## III. ГРАМАДА ГАТОВАЯ АБ'ЯДНАЦЦА

Ну, а наконт раздробленасці... Пазіцыя нашай партыі — мы гатовы аб'яднацца на пэўных прынцыпах з людзьмі, партыямі, каторыя сапраўды выступаюць за суверэнітэт Беларусі. Чаму суверэнітэт я стаўлю на першае месца? Таму што лічу, што пры нармальным кіраўніцтве Беларусь мае пераважныя шанцы стаць моцнай, выбрацца з гэтай ямы, вельмі хутка адрадзіць былы дабрабыт і набіраць тэмпы. У нас цудоўнейшыя магчымасці. Крыкі пра недахопы рэсурсаў — ханжаскае глупства. «Крыкуны» цудоўна ведаюць, што тая ж самая Японія не мае ніводнага радовішча якога-небудзь карыснага выкапня. А што ёсць у Швейцарыі? У Фінляндыі? У Аўстрыі? У Даніі? Аднак, як яны жывуць! Значыць, пытанне трэба ставіць не аб недахопе карысных выкапняў у Беларусі, а аб недахопе інтэлекту ў нашых кіраўнікоў, якія не ведаюць, за якую саломінку ўхапіцца, а таму чапляюцца за хвост расійскай палітыкі. А хвост матляецца. І разам з ім матляюцца нашы бедныя і няшчасныя кіраўнікі...

Таму Грамада выпрацавала дакумент — «Асноўныя прынцыпы фарміравання аб'яднання «Сацыял-дэмакратычны цэнтр», дзе выказала свае ўмовы для саюзу з іншымі палітычнымі сіламі. Прынцыпы гэтыя зацверджаны пленумам, і наколькі я ведаю, гэта першы дакумент у Беларусі такога маштабу і такога значэння. Яны — прынцыпы — павінны быць, бо беспрынцыпная палітыка для любой партыі нонсэнс. Хутка дакумент з'явіцца ў друку...

**— А калі кароценька, асноўныя яго палажэнні? Акрамя безумоўнага суверэнітэту, незалежнасці і дзяржаўнасці.**

— Мы вялікае значэнне надаем сацыяльнай абароне насельніцтва. На жаль, сёння ўрад займаецца сацыяльнай дэмагогіяй. Я не кажу, што яны спецыяльна робяць нешта горш для людзей, проста яны дэманструюць неразуменне моманту, і, у прыватнасці, трымаюць на датацыі малако, мяса, хлеб. Звычайны, самы элементарны прыклад. Ёсць два чалавекі — адзін атрымлівае ў месяц пяцьдзесят тысяч, другі — пяцьсот. Першы купляе адзін кілаграм мяса ў месяц, другі — дзесяць кіло. Кожны кілаграм, умоўна кажучы, датуецца ўдвая, г. зн. пры цане ў дваццаць тысяч рублёў дзесяць плацім мы, а дзесяць — дзяржава. Атрымліваецца, што бяднейшага дзяржава прадатавала ў месяц на дзесяць тысяч рублёў, а багацейшага — на сто! Дык каго мы абараняем? Багаты адбірае ад жабрака і яшчэ пры гэтым гаворыць: глядзі, якую я табе ласку раблю!

Такіх прыкладаў можна прывадзіць шмат, таму што ў нас ідзе, так бы мовіць, паралоўная сацыяльная абарона, а яна павінна быць мэтавай. Давайце будзем плаціць таму, хто ўжо не выжывае, каму цяжка — вось гэта будзе сацыяльная абарона! Тады мы абаронім пенсіянера, якога абакрала дзяржава, каб ён мог з'есці той няшчасны кус мяса, што, як кажуць медыкі, неабходны для падтрымання нармальнай жыццядзейнасці.

Другі бок: там, дзе ёсць дэфіцыт, там, дзе ёсць датацыя, — там заўжды ёсць жулікі, зладзеі, якія крадуць і абкрадаюць зноў жа гэты самы народ. Уявіце сабе, якая армія застанецца без хабару, без крадзяжу, калі адменяцца датацыі. Ці не яны ўздзейнічаюць на людзей, якія прымаюць рашэнні?! Дэпутацкая камісія гарсавета, дарэчы, падтрымала гэтую ідэю мэтавых выплатаў маламаёмным.

**— Што ж, неабходнасць сацыяльнай абароны, прытым менавіта мэтавай, наўрад ці будуць абвяргаць нават самыя радыкальныя з лібералаў, бо чалавек, які жыве на зарплату ці пенсію, ужо і сапраўды падышоў да нейкай мяжы галечы і мяжы цярплівасці. За апошнія два гады наш жыццёвы ўзровень значна ўпаў, але, у адрозненне ад той жа Балтыі, Польшчы ці Расіі, эканамічны стан краіны не толькі не палепшыўся, але і пагоршыўся. Мы зваліліся ў прорву, не атрымаўшы нічога ўзамен. Выправіць становішча, пабачыць свет у канцы тунеля можна толькі ўзяўшыся як след за эканоміку...**

— І рашучыя, паслядоўныя, бескампрамісныя рэформы — таксама адзін з галоўнейшых прынцыпаў магчымага аб'яднання. Мы павінны стварыць нармальныя рынкавыя законы, умовы і адносіны ў галіне эканомікі. Тады з'явяцца грошы і ў людзей, і ў дзяржавы.

## IV. ЛУКАШЭНКА НАПЯРЭДАДНІ ВЫБАРАЎ

**— Наша гаворка сёння ўвесь час круціцца вакол выбараў. Скажыце, на вашу думку, знакаміты даклад Лукашэнкі на сесіі Вярхоўнага Савета аніяк не звязаны з перадвыбарчай барацьбой? Няўжо наш «нескароны змагар» у адзіночку падняўся супраць мафіі, ці тут вядзецца гульня больш тонкая і хітрая?**

— Я не назаву гэтую гульню больш тонкай. Гэта гульня брудная. Гэта сапраўднае палітыканства, і, акрамя агіды, выступы спадара Лукашэнкі і некаторых іншых дэпутатаў не выклікаюць у нармальнага чалавека анічога. Людзі зараз лічаць: Лукашэнка выступіў — вось гэта барацьбіт! Няпраўда, ніякі ён не барацьбіт! Чаму я так думаю?

Па-першае, прааналізуйце яго выступленне. Што сказаў ён такога, чаго б народ не ведаў? У газетах пра ўсе гэтыя справы ўжо даўно ўсё было напісана, даўно ўжо адбыўся «разбор палётаў».

Па-другое, які аналіз зрабіў Лукашэнка? Як ён сістэматызаваў свае факты? Расказаў, як можна рабіць грошы — дык гэта зрабіў бы і любы супрацоўнік аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю, і дзеля гэтага не варта было ствараць спецыяльную камісію і заслухоўваць яе на пасяджэнні парламента.

І я сам сабе задаю пытанне — каму было выгадным выступленне Лукашэнкі? Каму было выгадна ў адзін шэраг паставіць і тых, хто набыў развалюху-інамарку пятнаццацігадовай даўнасці, і тых, хто ставіў подпісы пад выдзяленнем валютных крэдытаў? Мяне проста здзіўляе, што, аказваецца, па Савету Міністраў не знайшлося нічога іншага, акрамя таго, што друкавалася ў газетах.

І я кажу — менавіта мафія пасля выступлення Лукашэнкі святкуе перамогу. Я ў гэтым упэўнены. Ёсць у Эдгара По апавяданне, якое пачынаецца прыкладна так: «Дзе лягчэй схаваць пясчынку? На пясчаным пляжы!» Сярод таго вэрхалу нясвежых фактаў, якія абрынуў на нашыя галовы Лукашэнка, выключна добра схавалася размеркаванне, напрыклад, валютных рэсурсаў. Гэта ж асноўныя сродкі! На што яны ішлі? Як яны ішлі? Чаму мы не маем адказу? Магчыма, па сваёй некампетэнтнасці Лукашэнка не мог да гэтага дакапацца, а выкарыстоўваў толькі тое, што яму падсоўвалі? Мне здаецца, што менавіта мафія яму падкінула факцікі і факты на ўсіх дэпутатаў, і ў гэтай колькасці «спраў» абсалютна схаваліся справы мафіёзныя. «Пясчынка» згубілася.

Цяжка сказаць, якое рашэнне прыме Вярхоўны Савет, але хутчэй за ўсё — даручыць пракуратуры разгледзець, разабрацца, праверыць і г.д. і да т.п., і на гэтым усё і скончыцца.

Вы правільна звязалі выступленне Лукашэнкі з выбарамі. Некаторыя дэпутаты ўжо казалі яму ў вочы, што яго справаздача — шоу перад выбарамі, работа пад Жырыноўскага...

**— Так, гэта звычайны папулізм у самай грубай форме...**

— Але! Толькі ж Лукашэнка не настолькі неразумны чалавек, я думаю, каб прэтэндаваць на нейкае прэзідэнцтва. Проста за яго спінай хтосьці стаіць і ўмела дырыжуе. Адсюль і тэндэнцыйны падбор фактаў — кагосьці закранаюць, кагосьці абсалютна не чапаюць. Кагосьці бамбяць з усёй сілы, каб дыскрэдытаваць за тое, што ў дзяцінстве ікру еў. Гэта чысты папулізм, разлічаны на набыццё нейкага іміджу змагара, хаця я б сказаў, што камісія Лукашэнкі абсалютна не выканала сваю місію. Мафія існуе, карупцыя існуе. Але менавіта мафія выкрыта не была.

**— Спадар Анатоль, дазвольце тады пытанне больш канкрэтнае, хоць і цяжкае. У сваім дакладзе Лукашэнка надта пашчыраваў у адносінах старшыні Нацбанка Багданкевіча і Мінскага гарвыканкама, пры тым не чапаючы некаторыя іншыя структуры і асобы. Дык чые тут вушы тырчаць? Якім канкрэтным асобам падобны падыход можа быць зручным і карысным?**

— Цяжка, вядома, адказваць на такое пытанне, хоць рожкі-вушкі таго ці іншага палітыка вельмі добра праглядваюць за радкамі знакамітага даклада. Дырыжорства ідзе, і тое, што адбылося на закрытым пасяджэнні, калі спрабавалі ў чарговы раз зняць з пасады Старшыню Вярхоўнага Савета, сведчыць: усё было скіравана, адрэжысавана, і яны чакалі зрыву спікера. Як толькі ён пагарачыўся — і забыта мафія, забыты крадзяжы: ва ўсім абвінавачваецца Шушкевіч.

## V. ДЗІРКІ ЗАКАНАДАЎСТВА

Што датычыць Мінгарвыканкама, то факты, якія былі пададзены — далёка не першай свежасці (памятаеце тыя дзевятнаццаць фондаў?), яны ўжо былі ў друку. І вынікам тады было тое, што праз прэсу ў старшыні гарсавета Аляксандра Герасіменкі было папрошана прабачэнне за хлусню і памылкі.

З іншымі заўвагамі даклада гарсавет абавязкова разбярэцца. Я буду абсалютна няшчырым, калі скажу, што ў нас у структурах выканаўчай улады ўсё ў парадку і няма ніякіх парушэнняў. На фоне рэзкага падзення выканаўчай дысцыпліны ва ўсёй краіне ўпала дысцыпліна і ў нас. Я не ўпэўнены і не магу сказаць шчыра, што не бяруць у нас хабар. Я ўпэўнены, што створаная бюракратычная сістэма служыць у першую чаргу чыноўніку, а не чалавеку. У нас ёсць падставы сумнявацца ў сумленнасці некаторых работнікаў, але ўсе «сігналы» пакуль што ананімныя, а ананімнымі дакументамі зараз ніводны орган не займаецца.

Праблемы існуюць, і пра гэта я не адзін раз гаварыў, але ж не ў тым ракурсе, як гэта падымае спадар Лукашэнка.

**— Якія захады можна чакаць ад гарсавета? Стварэння, можа, спецыяльнай камісіі кшталту лукашэнкаўскай, альбо хопіць паўнамоцтваў камісіі па льготах і прывілеях Міраслава Кобасы?**

— Са спадаром Кобасай мы ўжо неаднойчы гаварылі пра тое, што яго камісію трэба ператварыць у камісію па кантролю за выкананнем законаў і рашэнняў сесій, бо некаторыя рашэнні або груба не выконваюцца, або несвоечасова. Невыкананне некаторых пунктаў пастановы па разавых зборах прывяло да страты гарадскім бюджэтам велізарнай колькасці грошай. Я не хацеў бы стаць падобным да Лукашэнкі і кідаць неабгрунтаваныя абвінавачванні, трэба ва ўсім разабрацца, а таму не буду гаварыць пакуль больш канкрэтна. Але на сесію гэтае пытанне будзем выносіць і будзем ствараць адпаведную камісію.

І яшчэ адну камісію трэба ствараць — па кантролю за выкарыстаннем зямлі. Да гэтага часу зямля не была таварам, цяпер становіцца. І трэба вельмі добра тут разбірацца, каб горад не прайграў. Нам зямля дае ў бюджэт горада недзе каля аднаго-двух працэнтаў, а ў гарадах Еўропы — да сарака, а то і болей працэнтаў бюджэту фарміруецца менавіта з падаткаў на зямлю.

Я не ўпэўнены, што дэпутацкі корпус падтрымае нашыя прапановы. Ёсць тут свае прычыны, і прычыны тыя самыя, што і ў Вярхоўным Савеце, дзе пытанне пра мафію і карупцыю загавораць, таму што вельмі многія з дэпутатаў звязаны з выканаўчымі структурамі. І ў нас у выканкаме ўжо атабарыліся вельмі многія дэпутаты. Але з такімі прапановамі ўсё ж буду выходзіць.

**— Ну, мне здаецца, што надзея ёсць, бо гарадскі Савет больш дэмакратычны, больш ураўнаважаны ў палітычных прыхільнасцях, чым Вярхоўны Савет. Раскладка сіл жа іншая?**

— Раскладкай сіл я б гэта не называў, бо адразу ўспамінаюцца тыя першыя нашы дні, калі ўтварыліся фракцыі. Але прайшоў час, і ў кожнай фракцыі з'явіліся разумныя людзі, якія бачаць, што адбываецца ў краіне, і што трэба рабіць у першую чаргу.

Сёння, карыстаючыся тым, што непрафесійны парламент непрафесійна падыходзіць да прыняцця законаў, што дзіркі ў заканадаўстве так і зіхацяць над чыстым небам сумленнасці, уся пошасць, уся дрэнь, каторая і раней сядзела, але баялася браць болей за начальніка, цяпер разгарнулася. І з гэтым, вядома, трэба весці барацьбу. І мы будзем яе весці. Але ж для гэтага трэба заканадаўства. Колькі можна звяртацца да тых жа дэпутатаў з Вярхоўнага Савета з просьбай: прыміце адпаведны закон. Калі не прадугледжвае нейкі акт адказнасці за невыкананне — дык увядзіце спецыяльны артыкул. Не! У нас законы могуць не выконвацца, пракуратура не звяртае на гэта ўвагі, Савет Міністраў ігнаруе рашэнні Вярхоўнага Савета, прымае свае пастановы — ну дык прабачце, на такім фоне беззаконня кожны чыноўнік мае неабмежаваныя правы і магчымасці. Памятаеце тыя факты пра спадара Кебіча? У якой краіне магчыма, каб пасля такіх абвінавачванняў, якія прэм'ер-міністр не здолеў абвергнуць, такі прэм'ер заставаўся б прэм'ерам? А ў нас — усё нармальна, і Кебіч спакойна дырыжуе фракцыяй «Беларусь».

## VI. ДЗЕ ЎЗЯЦЬ СІЛЫ?

**— І апошняе пытанне, спадар Анатоль. Ва ўсёй гэтай сітуацыі, калі не «свецяць» у бліжэйшы час выбары, калі не «свеціць» нічога ў барацьбе з мафіяй і карупцыяй, калі не «свецяць» эканамічныя рэформы, калі ўсё гэта абцяжарваецца фактарам расійскай унутранай і знешняй палітыкі, ці не з'яўляецца ў вас пачуцця, амаль як той казаў, глыбокага песімізму, калі хочацца плюнуць на ўсё і адысці ад усялякай палітычнай дзейнасці?**

— Сапраўды, часам узнікаюць такія думкі, калі б'ешся лбом аб сцяну і нічога не атрымліваецца. Калі на фоне ўсіх злачынстваў народ толькі маўчыць ці шушукаецца па сваіх кухнях. Крыўдна за сябе, крыўдна за людзей, якія побач з табой — што ж нас ператварылі ў нейкае быдла, якое жыве па прынцыпу — пад'еў і ў хлеў?! Цяжка, але ж...

Я думаю, кожны павінен зрабіць тое, што можа. Часам і нашыя дэпутаты скардзяцца, што, маўляў, патрачаны час дарма ў гарадскім Савеце, што мы не зрабілі тое, тое і тое. Вядома, мы многага не зрабілі, многа памылак нарабілі. Прыйшлі мы ў Савет (я, напрыклад, інжынер), як тут з ходу разабрацца? Гэта зараз ужо ёсць нейкі вопыт, разуменне тых працэсаў, якія адбываюцца за нейкімі рашэннямі. Разумею прычыны і нават магу прадказаць і вынікі. Тое самае ва ўсіх нашых дэпутатаў — з'явіліся вопыт і разуменне. І калі мне гавораць, што не варта нешта рабіць, да выбараў засталося зусім трошкі, я гавару — не, давайце адпрацуем свой тэрмін, каб са спакойным сумленнем можна было б сказаць: мы зрабілі ўсё, што маглі. Дзе маглі, там зрабілі.

І таму я лічу, што адмаўляцца ад барацьбы, плыць па плыні — не варта. І ў гэтай сітуацыі мне здаецца, што не ўсё так блага. Палітычнае жыццё, эканамічныя рэформы набываюць незваротны характар: як вядро, у якое па кропельцы капае вада. Пройдзе шмат часу, але момант, калі вядро перапаўняецца, наступае. У рэшце рэшт надакучыць людзям глядзець і на гэты Вярхоўны Савет, і на прэм'ера з ягоным урадам, які мяняе свае погляды тройчы на тыдзень.

Ёсць святое права — права людзей на жыццё, на сапраўднае жыццё. І ў суверэннай Беларусі гэтае права павінна ў першую чаргу адыгрываць ролю.

**— Дзякуй вам за шчырую гутарку. Дай божа, каб спраўдзіліся як найхутчэй вашыя спадзяванні.**

РЕСПУБЛИКА

### «НАМЕТАЛИ» ПРОИЗВОДСТВО

Серийный выпуск навесных погрузчиков-стогометателей для трактора МТЗ-80 налажен на Минойтовской межрайагропромтехнике.

Как сообщил корреспонденту агентства РИД ее директор Владимир Савашинский, производство необходимых сельчанам погрузчиков было организовано в течение полугода. В настоящее время их выпущено уже около 160 штук. Как отметил директор, погрузчики-стогометатели пользуются спросом в хозяйствах, которые покупают их по нескольку единиц сразу. В связи с этим в межрайагропромтехнике планируют расширить производство и реализовывать продукцию не только в республике, но и за ее пределами.

**Сергей РАСОЛЬКО.**

### ОЛЕНЕВОДСТВО НА ПУХОВЩИНЕ

**55 пятнистых оленей завезли недавно в колхоз «Сергеевичи» Пуховичского района.**

**Таким образом, хозяйство довело количество этих животных до запланированного. Сейчас в спецзагоне содержится уже 115 красавцев-оленей.**

**Николай ГРИГОРОВИЧ.**

### ЛЕТНИЕ КАНИКУЛЫ ЗИМОЙ

Энергетический кризис всерьез задел и гигантов индустрии на Брестчине.

Из-за острейшего дефицита топлива на Березовской ГРЭС предприятия области довольствуются лимитами на электроэнергию на 20-50 процентов меньше, чем хотелось бы. В самом Бресте исключение сделано лишь для коврового объединения и завода газовой аппаратуры. Тем временем прошел слух, что в случае сильных морозов будут прекращены занятия в школах, и наверстывать учебную программу ребятам придется уже летом.

### ПЕРЕОЦЕНИЛИ ВОЗМОЖНОСТИ?

**Самый дорогой из проданных на Брестских аукционах недвижимости объект так и не обрел своего нового хозяина. На первых торгах право пятилетней аренды магазина «Текстильная галантерея» ушло по сногсшибательной цене — 240 млн. рублей. Однако Ассоциация «Парадокс», «обскакавшая» конкурентов, не особо спешила рассчитаться за купленный объект. Когда истекли все мыслимые сроки и в отделе по управлению коммунальным имуществом и приватизации горисполкома терпение лопнуло, «Парадоксу» был выставлен штраф в размере 48 млн. рублей, что составило 20 процентов от продажной цены.**

**Олег СУПРУНЮК.**

### РАДОСТЬ С ГОРЧИНКОЙ

К одной из маленьких радостей в нашей жизни можно отнести ввод в эксплуатацию нового 5-этажного корпуса Витебской областной детской клинической больницы на 155 коек, которое возвели строители арендного СУ-37 стройтреста № 9.

Для врачей и их маленьких пациентов созданы все условия для лечения. В здании разместились аллергологическое, ортопедо-травматологическое и реанимационное отделения, травмопункт. Целый этаж отдан под операционный блок. Довольными могут быть и родители, для которых отныне появилась возможность в случае необходимости находиться с маленькими детками.

Но не все так гладко в больнице, как кажется на первый взгляд. В клинике не хватает современной аппаратуры, а современные хирургические инструменты больница не получала на протяжении последних пяти лет. Остро нуждается коллектив в денежных средствах, чтобы закупить, к примеру, игрушки для детворы. И здесь надежда одна — на спонсоров.

**Владимир ШИК.**

### «ВНУЧАТА» ШАЛЯТ

**Совершено уже третье «покушение» на памятник Ленина, расположенный на одноименной площади в Пинске.**

**Вождь мирового пролетариата на сей раз был «обстрелян» бутылкой с мелом, разведенным в воде. Политическую подоплеку происшествия можно отмести сразу, т.к. злоумышленниками оказались трое местных пацанов в возрасте от 9 до 13 лет. За проделки своих шаловливых чад родители сих отпрысков вынуждены были заплатить штраф.**

**Олег СУПРУНЮК.**

С ЮБИЛЕЕМ!

# ОН СОВСЕМ НЕПРОСТОЙ, НАШ РАЙОН ЗАВОДСКОЙ

***В канун Нового года Заводской район отмечает свое 55-летие со дня основания. За эти годы из деревень и окраин города он превратился в индустриальный промышленный центр не только столицы, но и республики. Заводы, больницы и поликлиники, школы и магазины, кинотеатры и дворцы культуры, жилые кварталы — все это дело рук заводчан, тех, кто восстанавливал город из руин, трудится на стройках и предприятиях.***

***Юбилей обязывает оглянуться назад, оценить достигнутое, добрым словом вспомнить ветеранов и тех, кто сегодня в сложной экономической ситуации обеспечивает рост объема производства в районе.***

***В канун празднования наш корреспондент попросил председателя исполкома Вячеслава ЮХНОВИЧА ответить на интересующие вопросы.***

**— В сложной экономической и политической ситуации район готовится к своему 55-летию. Не кажется ли Вам, Вячеслав Станиславович, что «некруглый» юбилей района его жители воспримут как «пир во время чумы»? Ведь на его организацию необходимы средства и немалые.**

— Что касается средств, то они не скажутся на потере бюджета, так как, во-первых, вся культурная программа базируется на выступлении районных коллективов художественной самодеятельности, уровень которых не уступает профессиональным артистам. Тем более, что многие из них являются победителями республиканских и международных конкурсов.

Во-вторых, в финансировании этих мероприятий участвует большинство предприятий, организаций и коммерческих структур района. А главное в том, что цель этих торжеств — восстановить историю старейшего трудового района столицы через историю создания и развития предприятий, через судьбы людей, строивших и создававших экономический и научный потенциал района. Достаточно сказать, что на его территории создавались такие заводы как автомобильный, тракторный, подшипниковый, моторный, действуют крупнейшие строительные организации «Минскпромстрой» и завод крупного панельного домостроения ДСК-3. ТЭЦ-3 обеспечивает теплом и электроэнергией значительную часть города, тысячи специалистов готовит расположенный в районе экономический университет.

Готовясь к торжеству, мы не только восстановили историю района, мы восстановили в памяти фамилии рабочих, инженеров, ученых, врачей, педагогов, руководителей, отдавших многие годы и силы на укрепление материально-технической и культурной базы района.

Это благодаря им в сложнейшей ситуации в республике, в районе обеспечен в текущем году рост объема производства в сопоставимых ценах по сравнению с прошлым годом. Не снижаются объемы строительства жилья хозяйственным способом, активно внедряются новейшие методы лечения и устанавливается уникальное оборудование в медицинских учреждениях района. А многие врачи и педагоги являются лучшими специалистами города и республики.

Вспомнить их поименно, сказать теплые слова благодарности — это наш долг, это традиция нашего трудового района.

**— Заводской район проблемный по многим параметрам. Если же говорить о минимуме людских запросов, то можно остановиться, пожалуй, на двух: жилье и питание. Как удовлетворяется спрос на эти первоочередные социальные нужды в районе?**

— Я уже сказал, что несмотря на снижение строительства в городе государственного жилья, предприятия не снижают темпы его строительства хозспособом. Более того, если раньше такое жилье строил только автозавод, то сейчас около десятка организаций района, в том числе и подшипниковый завод, КПП «Минскпромстрой», универмаг «Беларусь», ТЭЦ-3 и другие. Только за последние два года предприятиями, организациями района построено 9 домов и в настоящее время возводится еще 20. Ведется застройка индивидуальных домов в поселке Михановичи.

Чтобы иметь дополнительные продукты питания, на территории района выделено более 800 участков под огороды.

На базе подсобных хозяйств создано арендное предприятие «Новое поле», где ежегодно производится до 60 тонн мяса. Минский автозавод завершает строительство мясоперерабатывающего комплекса в своем подсобном хозяйстве. С целью своевременной закупки продуктов питания продовольственным магазинам постоянно выделяются сотни миллионов рублей по льготному кредиту. Для уменьшения перебоев в торговле хлебом в районе открыт магазин на хлебозаводе № 3, закуплена и установлена в «рабочем магазине» в автозаводском поселке итальянская линия по выпечке белого хлеба.

На плодоовощной базе района в хранилищах находится достаточное количество картофеля, моркови, капусты, свеклы. Предприятия и организации позаботились о доставке картофеля для своих работников из подшефных хозяйств Березинского и Червенского районов. В связи с дефицитом поставок сахара в госторговлю исполкомом, предприятиями и организациями для своих работников поставлен сахар из-за пределов республики. В канун Нового года хочу сказать, что, как и ранее, все дети в детских садах получат бесплатные подарки.

Как видите, наши усилия, как и прежде, направлены на дополнительные источники поставки продуктов питания. Но проблема уже переходит в другое русло. Для многих заводчан, особенно для пенсионеров, цены на отдельные продукты становятся недоступными. И уже сегодня мы значительно увеличили количество материальной помощи людям с малым достатком, более 200 пожилых людей и 500 школьников получают бесплатные обеды, ежедневно все учащиеся в школах обеспечиваются завтраками, оплачиваемыми из районного бюджета.

**— Исполнительный комитет районного Совета разработал и осуществляет программу социального и экономического развития района. Понятно, в интервью ее изложить невозможно. Не могли бы Вы, Вячеслав Станиславович, коротко рассказать о ходе выполнения одного из направлений этой программы?**

— Программа экономического и социального развития предусматривает многие стороны развития районного хозяйства. Кроме того, разработаны и осуществляются долгосрочные программы «Экология», «Здравоохранение», «Правопорядок» и другие. И если остановиться на одной из них, то хочу сказать о работе по благоустройству улиц и дорог. Если примерно четыре года назад в районе ремонтировалось и асфальтировалось 5-6 улиц и дорог, то за три последних года их сделано более шестидесяти, в т.ч. улиц частного сектора — более сорока. В последнее время капитально отремонтированы дороги по улицам Алтайской, Нестерова, Ангарской, Байкальской, Голодеда, Ташкентской, Крупской, Плеханова, Тухачевского, Кулешова, Грекова, Селицкого и др. Заканчивается ремонт и реконструкция ул.Машиностроителей, которая напрямую свяжет Чижовку с новой автостанцией. 11 грунтовых улиц заасфальтировано в районе домов частного сектора в Северном поселке, 10 в микрорайне Чижовка, 10 в автозаводском поселке, 10 в Западном поселке.

Большую поддержку району в этом вопросе оказывает автомобильный завод. Мы с заводом уже сегодня готовим автозаводской поселок и район в целом к 50-летию завода, которое будем отмечать в следующем году.

Кто-то скажет, что, мол, надо начинать с магистрали по Партизанскому проспекту, а не со второстепенной дороги. Хочу напомнить, что в связи со строительством метро предстоят еще неоднократные раскопки проспекта. Поэтому надо потерпеть, с пуском метро эта дорога преобразится.

**— Что характерно для деятельности исполнительного комитета сегодня? Что в его работе принципиально нового, современного?**

— Что нового в работе исполкома? Да как и на всех предприятиях сегодня: каждый день — новые проблемы и вопросы. То вводится обмен денег, то купоны, то талоны, то приватизация жилья; то нет спичек, то сахара, то растительного масла. С изменением и принятием закона в исполкоме неожиданно появляются сотни людей, желающих открыть частное дело, и ждать они не могут ни минуты. А почти ежемесячный пересчет пенсий?! А у нас ведь 48 тысяч пенсионеров! За всеми этими вопросами люди, которые ждут решения своих проблем. Их надо принять, разместить, обслужить.

Вот в таких условиях сегодня и работают райсовет и исполком. На решение возникающих проблем порой остаются не только дни, но и часы. И я далек от мысли, что наша работа удовлетворяет все запросы населения. Но хочу заверить заводчан, что райсовет и его службы будут делать все возможное, чтобы лучше и быстрее решались проблемы района.

Завершая наш разговор, хочу поздравить всех заводчан с 55-летием района, с наступающим Новым годом. Крепкого вам здоровья.

**— Спасибо за беседу. С наступающими праздниками и примите самые наилучшие пожелания в Вашей нелегкой работе.**

**Виктор ШАЦКИЙ.**

